# ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА

Каб СССР спакойна
Мог будаваць і жыць: —
Чырвоны пагранічнік
Стаіць на мяжы.
Ў лясох непераходных,
Дзе толькі вые зьвер —
Чырвоны пагранічнік
Вартуе СССР.
І ў стэпах несканчоных,
Дзе так вятры пяюць —
Вартуе пагранічнік
Рэспубліку сваю.
На морах, рэках, горах,
На кожнай мяжы
Вартуе пагранічнік
Свае рубяжы.
Калі-ж узьніме вораг
па СССР агонь —
Чырвоны пагранічнік
адкіне яго.
Мы-ж не дамо, рэспубліку
каб зьнішчыў газ,
І клікне пагранічнік
пасобіць нас.
І будзем дружна разам
мы ворага біць.
За СССР сусьветны
бяз межаў і граніц!

ПЯТРУСЬ БРОЎКА.

№ 3

ІСКРЫ ІЛЬЛІЧА 3
4 год выданьня
Двухтыднёвая часопісь для меншых дзяцей
ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ
1932 г.

# ЧЫРВОНААРМЕЙСКІ МАРШ

**Тэмп марша** — **Музыка ЯФІМАВА**



ПРА - ХО - ДЗІМ ГА - РА - ДЫ І СЁ - ЛЫ І



ПУ - ШЧЫ І ЛУ - ГІ. АР - КЕ - СТРЫ ГРА - ЮЦЬ МАРШ ВЯ - СЁ - Л - ЛЫ НЯ



ВЕ - ДА - ЕМ ТУ - ГІ. І - ДЗЕМ СЬЦЯ - НО - Ю МЫ СТА - ЛЁ - ВАЙ РА -



БО - ЧЫМ ШЛЕМ ПРЫ - ВЕТ, СЬЦЯ - ГІ МІГ - ЦЯЦ - ЦА НАД КА - ЛЕ - НАЙ. СЬЦЯ



ГІ, ЯК МА - КАЎ ЦЬВЕТ. АД - ВЕ - ДАЎ ВО - РАГ НА - ШУ ЗБРО - Ю, НАШ



БА - Я - ВЫ УЗ - ДЫМ, ВА - КОЛ СА ВЕ ТАЎ МЫ СЬЦЯ -



НО - Ю СТА - Я - ЛІ І СТА ІМ



# 23 ЛЮТАГА—ДЗЕНЬ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ

**ВЕРНАМУ ВАРТАЎНІКУ МЕЖАЎ КРАІНЫ САВЕТАЎ — ЧЫРВОНАЙ АРМІІ—БАЯВОЕ ГАРАЧАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ АД МАЛОДШАЙ ЛЕНІНСКАЙ ЗЬМЕНЫ — ЮНЫХ АКЦЯБРАТ!**

**НЯХАЙ ЖЫВЕ НЕПЕРАМОЖНАЯ СЛАЎНАЯ ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ!**




I

Апавяданьне І. КАГАНОЎСКАЙ
Малюнкі Л. РАНА

Палкоўнік Зубатычаў вельмі паважаў сабакі Меў ён іх некалькі, але самы любы быў яго сабака Нэран. Часта праз гэтага Нэрана даставалася палкоўнікавым дзяншчыком.

Малады салдат Кавалёў толькі што астаўся за дзяншчыка ў палкоўніка. Ён меў „гонар“ служыць яго „вялікаблагародзю“ і даглядаць Нэрана. З гэтага і пачынаецца гісторыя.

Аднойчы палкоўнік куляй уляцеў у кухню:

— Чаму сёньня чыхае Нэран? Хто вадзіў яго гуляць?—зьвярнуўся палкоўнік да спалоханых дзяншчыкоў.

Выступіў Кавалёў:

— Вінават, ваша высокаблагародзе,—пачынае ён дрыжачым голасам.

— Маўчаць!—ускіпеў палкоўнік.—Ды як на табе вопратка сядзіць?—схапіў салдата за каўнер ён.

— Чаму ў цябе рубашка не зашпілена? Я цябе навучу як стаяць перад начальствам! І аглушаючы ўдар кулака спусьціўся на твар салдата.

„Чхы... чхы... даносілася праз адчыненыя дзьверы чыханьне Нэрана.

Палкоўнік дрыжаў ад злосьці. Аслупянеўшыя стаялі салдаты. Ціха стагнаў Кавалёў.

Стаміўся палкоўнік—цяжка вучыць „мужыка“. Пашоў у пакоі.

Стаяў салдат Кавалёў і разам з крывёю сплёўваў выбітыя зубы.

„Чатыры зубы, ні за вошта“, думаў Кавалёў і добра запамятаў сваю першую сустрэчу з палкоўнікам Зубатычавым.

## 2

Гарачыя дні рэвалюцыі 1917 году. Хоць восень на дварэ, але горача ў гэтыя дні чырвонагвардзейцам, матросам, рабочым. Улада ўжо ў руках Саветаў. У норы пахаваліся золатапагоньнікі. Чырвонагвардзейцы, матросы, рабочыя вывалакваюць іх адтуль.

Вось са страхі аднаго дому страляюць у праяжджаючых на грузавіку чырвонагвардзейцаў. Спыніўся грузавік. Кінуліся туды чырвонагвардзейцы. Завязалася перастрэлка. Адзін з іх падкраўся з боку і стукнуў прыкладам у плечы. Вораг выпусьціў рэвальвэр, другі міжвольна падняў рукі ўгару.

— Даваяваліся,—крычаў чырвонагвардзеец.

— Тав. камандзір, дазвольце прыкончыць іх на месцы,—сказаў падбегшы малады рабочы.

— Стой, Ліхачоў, мы іх адправім у крэпасьць,—адказаў камандзір.

Вывелі на двор. Пачалі зрываць пагоны. У абодвых палкоўніцкія. Глядзіць камандзір—

знаёмы твар. Успомніў сабаку Нэрана, выбітыя зубы...

Зубатычаў і Кавалёў стаялі адзін супроць другога.

— Пан палкоўнік, пазнаіце?

Падняў галаву палкоўнік, паглядзеў у твар камандзіру і хацеў нешта сказаць, але Кавалёў аддаў загад.

— Адправіць па прызначэньні. Даставіць на месца жывымі. Там разьлічымся.

Грукочучы, грузавік з чырвонагвардзейцамі паімчаўся.



„Казарма ў царскай Расіі была горшай за ўсялякую турму; нідзе не расквіталі ў такой меры катаваньні, пабоі, зьдзекі над чалавекам“.

У. І. Ленін



# ХЛЕБ вязуць

(З запісак чырвонаармейца)

Скрып палазоў, іржаньне коняй, звон званочкаў разносіцца над Шылкаю. Гэта чырвоны абоз з 200 падвод ідзе да Срэценскай канторы „Саюзхлеба“.

Мы невялікай калёнай у ліку 40 чалавек шагаем у горад з ганароваю задачаю — сустрэць абоз, прывітаць яго ад Чырвонай арміі і, самае галоўнае, дапамагчы выгрузіць і ссыпаць хлеб.

— У зімы ёсьць тры сыны,— казалі мне, калі быў малы: мароз—чырвоны нос, мароз—сіні нос і самы страшны градусаў на 50, мароз – белы нос. Гэты самы страшны сёньня таксама вышаў сустракаць чырвоны абоз. Але ў яго другія намеры — сарваць хлебазагатоўкі. Як спрактыкаваны шкоднік, мароз залазіць пад шлём, кусае нос і пячэ твар.

Калі ідзеш у страю, твараў таварышоў ня відаць. Выпадкова я азірнуўся—і зьдзівіўся: твар Мускова, што ішоў ззаду, пакрыўся няпрыемнымі белымі плямамі. Ён, нічога ня ведаючы, весела падміргнуў з-пад казырка.

— Мускоў, шчокі тры, яны-ж белыя!

Мускоў асьцярожна мацае нос.

— Ды ў цябе самога твар увесь змарожаны,—кажа ён.

Мы на хаду заграбаем сьнег і моцна націраем замарожаныя твары. Кожны аглядаецца на суседа:

— У мяне пабялеў?

— Пабялеў. А ў мяне?

— Тры, скарэй тры...

— Апанас, ты, за адным махам і нос вытры!

— А ты лепш маўчы, а то язык адмарозіш!

Ад шчырага націраньня кроў варочаецца на сваё месца і твары чырвонаармейцаў расьцьвітаюць, як памідоры.

Прышоўшы на месца, мы пастроіліся ў дзьве шарэнгі.

Падалі каманду „вольна“ і мы дружна пачынаем скакаць, варушыцца. Побач вясёлаю грамадою стаяць вучні другой ступені, якія таксама прышлі „на абоз“. Яны тут нарадзіліся, вырасьлі і не баяцца „самага старэйшага“ марозу. Румянец пылае на іх шчоках, як піанэрскія гальштукі.

Ад саней адлучыўся кажух і, ціха ступаючы мяккімі валёнкамі, узьняўся на ганак. Яго каўнер раскрыўся, і адтуль паказаўся барадаты сялянскі твар. З-пад калматых брывей блiснулі блакітныя вочы.

— Таварышы!— селянін нязграбна ўзмахнуў цяжкім рукавом.

— Скінь кажух, дзядзька,— крыкнуў зычна голас з другой ступені.

— Не, распранацца ня буду. Дакладваю вам, што мы, сялянесераднякі вёскі Верхняя Алія ды вёскі Ніжняя Алія, сабралі свой хлеб, як сьвядомыя сяляне, колькі накладзена па сельскім падатку. Мы ведаем, што калі здадзім хлеб рабочым, то нам у вёсцы будуць машыны і вопратка і абутак, як-бы ў абмен— і як, бязумоўна, змычка. Марудзіць мы ня можам. Няхай жыве пяцігодка ў чатыры гады!

— Ура!—разам гукнула 39 чырвонаармейскіх галасоў.

— Ура! — хорам падхапіла другая ступень.

На ганку зьявіўся гарманіст і спрытна, ня гледзячы на пальчаткі, зайграў „Інтэрнацыянал“.

Мароз зарадаваўся, што мы стаім сьмірна, ды зноў узяўся за нашы шчокі, насы. Але праз хвіліну ўсё ажыло, заварушылася.

Заскрыпелі сані, пачулася панукваньне—распачалася разгрузка. Сяляне паскідалі верхнюю вопратку і ўзяліся за працу. Школьнікі пабеглі ў сьвірны на ссыпку. Мы падзяліліся на групы і пачалі зносіць збожжа. На санях ляжала па 5-6 мяшкоў. Усе мяшкі ўзважвалі, запісвалі і на сьпінах адпраўлялі ў сьвіран.



ЧЫРВОНААРМЕЙЦЫ НАСІЛІ Ў СЬВІРАН МЯШКІ.

У верхнім сьвірне, куды мы ўсьцягвалі мяшкі па сьлізкіх усходах, жоўтае мора хлеба. У ім капошацца вучні з школы.

— Не насеце больш, чырвонаармейцы! — крычаць спацеўшыя вучні. Мы ўтспімся!

— А вы вучэцеся плаваць!

Зярняты струменямі затапляюць сьвіран. Вучні засыпаюць нас прыгаршчамі збожжа. Мы, каб не даравацъ ім, закопваем нізенькую тоўсьценькую піанэрку ў збожжа па самую шыю—толькі чырвоная хустачка яе плавае на паверхні жоўтага мора. Дзяўчынка не здаецца і высоўвае доўгі язык, на які Ванькоў, пад агульны сьмех, ухітраецца спрытна палажыць некалькі зярнят аўса...

Ные сьпіна і страшэнна хочацца есьці. Час абеду даўно прайшоў. Чырвонаармейцы змарыліся і то той, то другі бяжыць адпачыць, пагрэцца ў хатку, што каля варот. Там цёпла. У кутку трашчыць печка, на ёй булькае кацялок з гарбатаю. За сталом сядзяць здатчыкі хлеба і ядуць.

— Сон морыць, — гаворыць, пазяхаючы, селянін.—Усё-ж такі цэлую ноч ня спалі.—Ён частуе нас хлебам і мёрзлым мясам, якое трэба расколваць, як колюць цукар.

...Было цёмна. Ужо зоры пачалі зьбірацца на свой начны сход, калі мы пашлі дахаты. У гарнізоне нас чакаў, лаючыся за спазьненьне, повар з абедам. Мы накінуліся на гарачы суп—крышанку.

Гарачая пара пакрывае нашы твары. Дружна апарожніваюцца міскі. Як на вайсковай і на гаспадарчай рабоце, так і тут нашы хлопцы не адстаюць.

---

**„Наш чырвонаармеец—не ранейшы царскі салдат, забіты і запалоханы, які зьяўляўся простай машынай у руках начальства. Такога салдата нам не патрэбна. Наш чырвонаармеец—поўнапраўны грамадзянін рэспублікі"**

**М. Фрунзэ.**




# МЯЖЫ

**К. ДМІТРЫЕВА**



Там, сьціскаючы
Моцна штык,
На граніцы
Стаіць вартаўнік.

Ён ня сьпіць
Ні ўдзень, ні ўночы,
І за ворагам
Пільна сочыць.

І нясхільны
Ягоны стан
Ці ў завею,
Ці ў дождж,
Ці ў туман...

Ваяваць мы ня хочам
Ані,
Але можам сябе
Бараніць.

Дык пільней, вартаўнік,
Назірай, —
Ты бароніш
Працоўны край!

---

**„Ніводнай пядзі чужой зямлі ня хочам, але і свае зямлі ніводнага вяршка не аддамо нікому".**

**І. СТАЛІН**

# Ударныя брыгады

**Верш КАГАНОЎСКАЙ.**

**Малюнкі З. ГАДЛЕЎСКАГА**

**ПРАЦЯГ**

V.

— Мы па сувязі
З заводам.
Памагаем працаваць.
Наш завод
У гэтым годзе
Перавыканаў
Свой плян.
А завод наш —
Вялізарны,
Выробляе
Шмат машын.
І мы працаю
Ударнай
Дастаўляем іх
Краіне.

VI.

Б'юць барабаны,
Б'юць барабаны;
Рады, змыкайся
Цесна!

Ідуць у паход—
Уціль-паход,
Ідуць брыгады
З песьняй.

Песьня брыгад.

Гэй, брыгады,
Жвава
Прымемся
За справу!



Мы двары
Абойдзем.
Шмат чаго
Мы знойдзем.
Ўсюды мы пралезем
І зьбярэм
Жалеза—
Старыя кавалкі—
Будуць рэйкі,
Гайкі.
Будуць для
Краіны
Новыя машыны.
Гэй, брыгады,
Жвава
Прымемся
За справу!

Ажыўляюцца
Двары
Сьмехам зычным
Дзетвары.

Дзівіцца,
Любуецца
На дзяцей
Ўся вуліца.
І брыгады
Жвава
Робяць
Сваю справу:

Цягне Шурка
Бляху з Нюркай;
Шклянкі, банкі
Цягне Янка.

Ледзь нясе з жалеза палку
Маленькі Міхалка.

А Пятрусь
З маленькай Нінай
Усяго набралі ў скрыню:
Тут і банкі, і бляшанкі,
Тут і ржавыя цьвікі;
Будуць з іх
Для нас машыны,
Будуць трактары.

Грэе сонца,
Грае сонца,
Зайчыкамі скача,
І з уцілем ужо едзе
Наш абоз
Дзіцячы.

Тры дзіцячыя брыгады
У рад сышліся цесна.
Тры ударныя брыгады
Ідуць сьмела з песьняй:
„Мы — дзеці краіны,
Вялікай краіны.
Нас клічуць заводы,
Нас клічуць машыны.
Мы разам працуем,
І хутка з бацькамі
Мы ля варштатаў
Станем і самі.
У нашай краіне,
Ударнай краіне
Працуем, будуем
Сям'ёю адзінай.
Нашае слова —
Моцнае слова:
Да працы гатовы,
Заўжды гатовы!“



# ЭКСКУРСІЯ на ФАБРЫКУ

Апавяданьне ДМІТРЫЕВАЙ

Малюнкі Н. ПАШКЕВІЧА




Доўга дзецям прышлося ісьці на гарадзкіх вуліцах і завулках. Некаторыя нават прысталі і пачалі скардзіцца, што баляць ногі. Але калі падышлі да вялізарнай брамы і калі ўсім кінулася ў вочы шыльда фабрыкі, дзеці забыліся пра стомленасьць і радасна загулі.

— Вось гэта і ёсьць швэйная фабрыка! Тут мы ўбачым сапраўдную фабрыку, не на малюнку!..

Настаўніца Вольга Рыгораўна заклікала ўсіх да парадку.

— Цішэй, дзеці! Мы павінны арганізавана зайсьці, бо мы— акцябраты.

Каля брамы фабрыкі сядзеў вартаўнік, які запытаў пропуск. Вольга Рыгораўна падала яму нейкую паперку і ён усіх упусьціў на двор, дзе стаялі тры вялізарныя карпусы фабрыкі. Накіраваліся ў першы корпус. Там іх спаткаў рабочы. Дзеці прывіталіся і пашлі за ім па доўгім калідоры.

— Ой як цёмна тут!—пачуліся галасы дзяцей.

— Што гэта за гурбы наложаны? Зьнізу аж да верху... нібы ў шахтах? — загаварылі дзеці.

— Вось далумаліся... у шахтах,—сьмяяўся рабочы,— гэта ляжыць складзеная кіпамі гатовая вопратка: паліто, касьцюмы... Сёньня мы ўсё гэта накіроўваем ў цэрабкопы і ў калгасы,—дадаў ён.

Пасьля гэтага зайшлі ў вялізарны сьветлы пакой. Тут стаялі доўгія сталы. Было шмат рабочых і работніц. Яны рэзалі, кроілі і складвалі матэрыю.

— А што тут робяць?—спыталі акцябраты.

—Тут рыхтуюць матэрыю для кройкі.

— А вунь там на машыне кроіць,—растлумачыў рабочы.

Дзеці з вялікай цікавасьцю глядзелі, як роўныя кавалкі сукна хутка клалі адзін на другі. Цэлая гара вырасла. На верхнім кавалку сукна рабочы мелам маляваў выкрайку сьпіны паліто. На другіх сталох таксама накладвалі сукно і малявалі выкрайкі рукавоў, каўняроў...



Зложаную матэрыю несьлі да машыны.

— Каб ня траціць шмат часу і ня кроіць кожнае паліто асобна, мы карыстаемся вось гэтай машынай,—тлумачыў рабочы малым экскурсантам.

Па намалёваных мелам рысках хутка прайшла машына. Глыбока і гостра прарэзала мелавую лінію.



— Ай-ей, колькі выкраілася адразу сьпін! А як роўна!.. і хутка!—дзівіліся дзеці.

— Гэта вам ня ножніцы... Ножніцы могуць толькі адну рэч выкраіць, а машына адразу дзесяткі!— тлумачыў рабочы.

Азнаёміўшыся з першым корпусам, дзеці пашлі ў другі. Там весела стукалі швэйныя машыны і сшывалі выкраеную матэрыю ў гатовую вопратку.

— А як тут шыюць—нажнымі ці ручнымі машынамі,—запыталі акцябраты.





— Тут машыны працуюць электрычнасьцю. Непатрэбна ні рукамі, ні нагамі круціць.

— Як-жа гэта так!—зьдзівіліся акцябраты.

— Патрэбна ўключыць у машыну электрычнасьць і машына пачынае працаваць. Толькі падкладвай і накіроўвай матэрыю,—гаварыў рабочы.

Каля кожнай машыны стаялі на дошчачках кароткія палкі, на кожнай палцы былі яшчэ палачкі, на якіх былі наткнутыя шпулькі нітак.

— Навошта тут гэтулькі шпулек?—пыталі дзеці.

— Гэта для таго, каб ня траціць часу, калі шпулька стане пустая. Работніца тады адразу бярэ нітку з другой шпулькі,—пачулі ў адказ дзеці.

Агледзеўшы і гэты корпус, сабраліся выходзіць. Два хлопчыкі нагнуліся і паднялі на падлозе пустыя шпулькі.

— На ўспамін возьмем,—гаварылі яны.

Але тут умяшаўся важаты акцябрат.

— Нельга без запытаньня браць... Хіба мы прышлі сюды, каб самавольна браць? А шпулькі яшчэ спатрэбяцца на фабрыцы...

Тады загаварылі работніцы.

— Вазьмеце шпулькі! Нічога! Вазьмеце...

Але цяпер яны і самі не хацелі браць.

— Яшчэ вам спатрэбяцца. На іх наматаеце зноў ніткі! Навошта страты рабіць дзяржаве.

Так і ня ўзялі.

Потым дзеці глядзелі ў трэцім корпусе, як прышываюць гузікі, почапкі, як конвэерам

пераходзіць паліто ад аднаго рабочага да другога. Урэшце зайшлі ў пакой, дзе прасуюць. Як увайшлі туды, дык адразу ўсе глянулі ўверх:

— Ой, колькі правадоў! Цэлая сетка з дроту,—дзівіліся ўсе.

— Што гэта такое на столі?—з цікавасьцю пыталіся ў рабочага.

— Гэта правады ад электрычных прасоў. Вось бачыце, як яны ідуць,—гаварыў рабочы.

На доўгіх сталох ляжала ўжо гатовая вопратка і прасавальшчыцы хутка вадзілі па ёй блiскучымі электрычнымі прасамі.

— Вось дык дзіўныя прасы... У нас дома не такія,—гаварылі між сабою акцябраты.

— Гэтыя прасы ня вуголь-лем награваюцца, а электрычнасьцю. Па провадзе ідзе ток і награвае прас. Такім прасам можна прасаваць цэлымі гадзінамі—расказвалі дзецям.

З цікавасьцю і ўвагай аб усім распытвалі і ўсё разглядалі малыя экскурсанты.

Калі ішлі дадому, было столькі гутарак ад уражаньняў, што нават ніхто ня прыстаў і ня скардзіўся аб тым, што далёка ісьці.

Толькі, калі прышлі ў школу,—адчулі, што хочацца есьці і хутка папрасілі сьнеданьне.

Смачна елі булку з гарбатай пасьля доўгай дарогі і цікавай экскурсіі.



Я. Маўр

# Драўлянае апавяданьне

працяг

Большая частка драўляных рэчаў, якія мы сустракалі ў „Драўляным апавяданьні"—тлумачэньняў не патрабуюць. Гэта простыя вырабы з дрэва. У гэтым выпадку дрэва ўвесь час застаецца такім самым, як і было, толькі яму надаецца розная форма—мэбля, шпалы, дошкі, лыжкі, драўляныя пантофлі, лапці, запалкі і г. д. Сюды-ж трэба аднесьці і такія рэчы, як мяхі, вяроўкі, якія робяцца з лубу бяз ніякага ператварэньня складу дрэва.



Смала таксама зьяўляецца простым прадуктам, здабытым з дрэва. Матрацы і падушкі вельмі часта робяць са стружак. У некаторых выпадках робяцца такія дробныя спэцыяльныя стружкі, што яны ня горш за пер'е. Са стружак, як усім вядома, робяцца і капялюшы.



Драўляны брук таксама належыць да простай апрацоўкі дрэва: бервяно распілоўваецца на кавалкі ўпоперак і гэтымі кавалкамі вуліца брукуецца, як каменьнем. У апавяданьні ўспамінаецца яшчэ „драўляная вопратка". Мы можам палічыць яе альбо за шоўкавы джэмпер, альбо за больш грубае адзеньне, зробленае з лубяных валакон.



Больш складанымі зьяўляюцца папяровыя вырабы. Для гэтага дрэва крышаць на драбнюсенькія кавалачкі, параць і атрымліваюць дрэўную масу, так званую цэлюлёзу. Просты тоўсты картон робяць непасрэдна з дрэўнай масы, а для лепшай паперы цэлюлёзу зноў крышаць, дадаюць прымешкі (клей, фарба і інш. хэмічныя матар'ялы), разварваюць пакуль ня зробіцца суцэльная рэдкая маса. Тады на машынах гэтая маса разьліваецца тонкім пластом, прасуецца, сушыцца—і выходзіць папера. У залежнасьці ад прымешак атрымліваюцца розныя гатункі паперы. Самая лепшая папера—з рызьзя, горшая—з аднаго дрэва,





розныя гатункі сярэдняй залежаць ад проценту прымешкі рызьзёвай масы (ня лічачы розных хэмічных матар'ялаў, якія дадаюцца ў меншай колькасьці).



Папяровыя вырабы адразу значна павялічваюць колькасьць „драўляных" рэчаў, аб якіх гаворыцца ў апавяданьні: „драўляныя" газэты, кнігі, папяроса (вядома бяз тытуну), толь для страхі, які зьяўляецца прасмаленым картонам, картонавыя каробачкі і г. д. З папяровай масы, насычанай мінэральным растворам, можна рабіць цэглу. Такую самую цэглу можна рабіць і з пілавіньня.





Хаця папяровыя вырабы і не падобныя да дрэва, але ўсё-ж такі яны зьяўляюцца той самай драўнінай, толькі пакрышанай у мяздру.



Трэцяя, вышэйшая ступень апрацоўкі дрэва—гэта хэмічная. Яна ўжо зусім пературарае драўніну і дае прадукты, якія, здаецца нічога агульнага з дрэвам ня маюць. Апрацоўка гэта называецца **сухой перагонкай дрэва.** У зачыненых чанах, бяз доступу паветра, дрэва награюць усё больш і больш і за гэты час з яго паступова вылучаецца адна частка матар'ялаў у выглядзе газу ці пары, другая—сьцякае ў выглядзе вадкасьці і трэцяя застаецца ў цьвёрдым стане (вугаль). Вось адсюль і выходзіць воцат, дрэўны сьпірт, эфірныя сьпірты і розныя іншыя хэмічныя прадукты, якія пасьля далейшай апрацоўкі і даюць усе тыя рэчы, пра якія гаворыцца ў апавяданьні: парфума (з зэфірнага сьпірту), каніфоля (а з яе мыла, каламазь, сургуч, плястыры), лякарствы (ёдаформ, хлёраформ), фармалін, лякі, фарбы і інш.





І нарэшце, яшчэ адзін працэс—гэта хэмічная апрацоўка цэлюлёзы. Як мы бачылі, з цэлюлёзы робяць паперу; цэлюлёзу тут больш крышаць, разварваюць, сёе-тое дадаюць, але сама яна не зьмяняе свайго складу, застаецца дрэўнай масай. А калі яе апрацаваць хэмічна, напрыклад, серкавай, азотнай кіслатой, тады цэлюлёзная маса пературараецца зусім у іншыя матар'ялы. У нас на Магілеўскай фабрыцы з яе вырабляюць шоўк (вось адкуль „драўляныя" гальшукі

і панчохі). З гэтай самай масы можна рабіць добрыя падэшвы і „кішкі“ для каўбас. З тэй-жа цэлюлёзы, апрацаванай іншым спосабам, можна зрабіць „порах“ (ня той чорны порах, якім у нас страляюць, а іншы). Потым цэлюлёза з дамешкай камфары дае цэлюлёід, з якога вырабляюцца грабяні, мячыкі і шмат розных іншых рэчаў, у тым ліку кінематографічная стужка і... „драўляны нос“, гэта значыць нос, зроблены з цэлюлёіду, а гэта часам робіцца, калі чалавек страціць свой нос (таксама вуха ці ўсе зубы, тады ўстаўляюцца цэлюлёідныя сківіцы).

У апавяданьні мы сустракаем адно вельмі дзіўнае слова—„драўлянае шкло“. Справа ў тым, што лепшыя гатункі шкла вырабляюцца з дамешкай поташу, а поташ выробляецца з попелу расьлін. Хоць такое шло і нельга назваць цалкам „драўляным“, але ў данным выпадку мы далучылі і яго, бо драўляны попел займае ў іх важнае месца.

Што да „драўляных“ страў, дык тут выбар невялікі, калі ня лічыць розных фруктаў. Аб воцату мы казалі, а масла з дрэў паўночных лясоў можа даць кедр ды ў нас—арэшнік. Каўбаса сама не драўляная, а толькі „кішка“ драўляная. Заместа гарбаты мы часта ўжываем лісьце дрэў, напрыклад, так званы ліпавы цьвет. А цукар у Германіі ўжо рабілі, але пакуль што няма патрэбы рабіць яго з дрэва заместа буракоў.

Такім чынам, мы разгледзелі тыя „драўляныя“ рэчы, якія ўпамінаюцца ў нашым маленькім апавяданьні. А гэта самая нязначная частка тых драўляных рэчаў, сярод якіх мы жывём.

А тым часам, мы можам зрабіць некалькі вывадаў:

Лес—важнейшае багацьце, а на Беларусі—самае галоўнае, бо мы ня маем іншых багацьцяў: каменнага вугалю, нафты, жалеза.

Лес можа даць сыравіну для вялізарнейшай прамысловасьці. Мы можам мець вялікую колькасьць фабрык і заводаў па апрацоўцы лесу, і ўсім ім хопіць работы.

Таму ў нас і будуюцца новыя вялікія прадпрыемствы па апрацоўцы дрэва (Бабруйскі Камбінат, Гомельскі і інш.).

А мы ўсе павінны сачыць, каб лес ня зьнішчаўся. У гэтай справе і кожны з дзяцей можа дапамагчы: хай ён ня псуе дрэвы, ня нішчыць маладняк, хай сам пасадзіць некалькі дрэў, а па ўсёй краіне з гэтага складуцца мільёны дрэў.

Памятайце пра лес і шануйце яго!

# МЫ ЯШЧЭ ВЕРНЕМСЯ

**Паводле ВЭРБЕРА**

У Кітаі зараз адбываецца вайна. Нават ні адна, а некалькі войнаў. Ваююць між сабою розныя генэралы. З генэраламі з поспехам вае кітайская Чырвоная армія. Многія часткі Кітаю ўжо сталі савецкімі. У канцы мінулага году адбыўся першы зьезд кітайскіх Саветаў. У вайне супроць чырвоных кітайскім генэралам дапамагаюць усе буржуазныя дзяржавы. Але ня толькі дапамагаюць, а і самі стараюцца захапіць сабе як мага большыя і лепшыя кавалкі Кітаю.

Адна з гэтых дзяржаў—Японія—выступіла супроць Кітаю і сілаю заняла Манчжурыю. Японія ставіць сваёй задачай захапіць лепшыя кавалкі Кітаю. Апрача гэтага—дапамагчы міжнароднай і кітайскай буржуазіі зьнішчыць рэвалюцыю ў Кітаі ды падрыхтаваць паход супроць СССР. Манчжурыя знаходзіцца на мяжы з нашай краінай. Адгэтуль зручна рыхтавацца супроць краіны Саветаў. Ліга Нацый (саюз вялікіх дзяржаў) дапамагае ў гэтым Японіі.

Але рабочыя масы Кітаю і ўсіх краін даюць жорсткі адпор міжнароднай буржуазіі. Сапраўдным гаспадаром Кітаю павінны быць і будуць самі працоўныя, якія на чале з кітайскай кампартыяй перамогуць ня толькі кітайскіх генэралаў, але і ўсіх сваіх ворагаў.

У гэтым апавяданьні аўтар паказвае моманты барацьбы Японіі супроць Кітаю і барацьбы кітайскіх працоўных мас супроць усіх сваіх ворагаў. *(Апавяданьне чытай на ст. 20).*

---

*Малюнкі ГАНФА, з газэты „КОМСОМОЛЬСКАЯ ПРАВДА“*

Японская буржуазія зарабіла на вайне з Кітаем вялікія грошы. Мастак Ганф вобразна паказвае ў гэтым малюнку, якім спосабам нажываецца японская буржуазія. Яна сілаю захапіла Манчжурыю, „палівае“ яе градам куляў і ад гэтага мае добры „ураджай“. У гэтай вайне гінуць кітайскія і японскія працоўныя масы, а буржуазія ад гэтага нажываецца.






**Многія буржуазныя дзяржавы падпісалі з другімі дзяржавамі пакты (дагаворы) аб ненападзе. Толькі Японіі няма магчымасьці гэтым займацца: яе рукі заняты крывавай работай.**

* * *

Ледзь толькі пачало сьвітаць. Маленькі Сун з таварышамі сьпяшаецца на работу. Яму яшчэ толькі пятнаццаць гадоў. Але ён ужо падобны на старога: згорбіўся, часта кашляе і заўсёды сумны. Цяжкая праца зрабіла яго такім.

Сун цяпер працуе грузчыкам на чыгунцы. Носіць праз увесь доўгі дзень цяжкія мяшкі і скрынкі.

Сун крыху адстаў ад таварышоў. Раптам нехта сьпераду крыкнуў:

— Глядзі! Японцы!

Сун убачыў салдат, якія ішлі ім насустрач.

— Сьцеражыся! — крыкнуў рабочы Ван Бао, і кінуўся назад у завулак. За ім усе грузчыкі. І ў той-жа час пачуўся трэск, звон шкла і нечы страшны крык.

— Страляюць! Японцы! Ратуйце!

Усе ўцякалі ў крывыя завулкі. Недзе далёка грукацела гармата.

Японскае войска ўваходзіла ў Мукдэн.

* * *

Манчжурыя ў руках японцаў. Яны перайшлі Кітайска-Усходнюю чыгунку і накіраваліся да савецкай граніцы.

Японскія ваенныя караблі ўваходзяць у кітайскія парты і займаюць гарады. Слабыя і кепска ўзброеныя кітайскія войскі адступаюць амаль бяз бою.

Буржуазныя дзяржавы—Англія, Францыя, Амэрыка і інш.—заклікаюць кітайцаў цярпець. Яны даводзяць ім, што нічога ня здарылася. А японскія войскі ўсё больш і больш пашыраюцца ў Манчжурыі.

Японская буржуазія бязьлітасна душыла паднявolены народ. Учора японцы растралялі дваіх грузчыкаў. Гэта яны зрабілі для таго, каб запалохаць іншых, што ўзьнімалі голас супроць зьдзекаў японскай ваеншчыны.

Усюды запанавалі японцы. Рабочыя кварталы запоўнены паліцэйскімі.

Зашавяліліся і рускія белагвардзейцы. Генэрал Сямёнаў раз'язджае па Манчжурыі і аглядае свае атрады. Вядзе тайныя перагаворы з японскімі генэраламі і рыхтуецца напасьці на Савецкі Саюз.

Усюды японцы выганяюць з работы ўсіх тых рабочых, якія спачуваюць чырвоным, ды замяняюць іх сваімі людзьмі.

— Вось паглядзіце, што нас таксама выганюць, — сказаў стары сцэпшчык Лін-Чан.—Мала таго, што на нашай шыі сядзелі свае фабрыканты і гандляры, дык цяпер да іх далучыліся яшчэ японскія буржуі. Яны, японцы, ясна ня будуць цярпець пад бокам нашых чырвоных з савецкіх раёнаў. А баявыя хлопцы, чырвоныя! З імі ніяк ня могуць справіцца кітайскія генэралы. Цяпер японцы пачнуць душыць нашу рэвалюцыю. А нашы генэралы ім пэўна-ж будуць памагаць. Для іх камуністы і рэвалюцыя страшней за ўсякага ворага. Але мы яшчэ паглядзім, хто пераможа ў гэтай вайне.

Лін-Чан нагнуўся яшчэ ніжэй і сказаў шопатам: „Скажу вам яшчэ, ім мала задушыць рэвалюцыю ў Кітаі. Японская буржуазія працягвае сваю лапу далей. Вайна супроць вялікай краіны сацыялізму, супроць СССР—вось іх мэта".

* * *

Словы Лін-Чана спраўдзіліся. Скора правялі масавае скарачэньне рабочых і служачых чыгункі.

У першую чаргу зьмянілі ўсіх кіраўнікоў чыгункі. На іх месца пасадзілі японцаў і іх прыхільнікаў.

Маленькага Суна і яго таварыша Ван-Бао таксама прагналі з работы. Яны былі вельмі слабыя і на іх нельга было многа зарабіць.

---

**Ліга Нацый (саюз вялікіх буржуазных дзяржаў) вядзе палітыку падзелу Кітаю паміж сусьветнымі драпежнікамі. Яна кіруе вайной супроць кітайскіх працоўных і рыхтуе напад на СССР.**



Сун і Ван Бао парашылі бегчы ў цэнтральны Кітай, далей ад японцаў.

На дзевяты дзень яны прышлі ў Нанкін.

У гэты дзень па ўсім Кітаі адбываліся пратэсты супроць Японіі, супроць захопу Манчжурыі.

Рабочыя зьбіраліся і гаварылі аб здрадзе кітайскіх урадаў. Сярод іх усюды шнырані шпікі і паліцэйскія. Яны разганялі рабочых, зрывалі іх плякаты і многіх арыштоўвалі.

На балкон дому ўраду вышаў высокі кітаец, у акулярах і афіцэрскай форме.

Натоўп заціх. Афіцэр выцягнуў руку і загаварыў. Ён гаварыў, што трэба аб'яднаць усе сілы Кітаю, трэба змагацца з чырвонымі.

Але яго перапыніў нечы голас.

— Далоў Чан-Кай-Шы! Далоў лёкая капіталістаў!

Малады кітаец-камуніст узьлез на плечы сваіх таварышоў і моцна пачаў гаварыць:

— Працоўныя Кітаю! Няверце Чан-Кай-Шы. Буржуазія згаварылася з Японіяй і хоча задушыць кітайскі народ і разграміць Чырвоную армію ў нашых савецкіх раёнах. Японія рыхтуе вайну супроць СССР. Прэч буржуазію.

Паліцэйскія кінуліся да таго, хто гаварыў.

Адбылася звалка. Рабочыя пачалі бараніць свайго таварыша.

Усё мацней і мацней чуліся выгукі:

— Няхай жыве Савецкі Кітай!

Нехта ўваткнуў у ліхтар палку з чырвоным сьцягам.

Раптам адзін за другім пасыпаліся стрэлы.

Гэта салдаты стралялі ў мірных людзей. Людзі кінуліся хто куды, пакідаючы за сабою забітых і параненых.

Маленькі Сун бег з Ванам-Бао. Але вось Ван-Бао дзіка закрычаў і шлёпнуўся на зямлю. Сун нахіліўся да яго.

Куля забіла яго таварыша насьмерць.

Маленькі Сун паглядзеў у бок страляўшых, пагразіў кулаком.

— Бяжэм у савецкія раёны. Мы яшчэ вернемся!

Трэск кулямётаў заглушыў яго голас. Сун хутка схаваўся ў завулак.



# Вата

**Э. Сяо**



Дзеці кітайскага рабочага.

Сее бядняк бавоўну,
Бавоўну мяккую зьбірае,
Работніца трэпле бавоўну,
Сушыць яе, ачышчае.

Выходзіць белая вата,
Сухая чыстая вата...
І бавоўна, і пот, і вата
Ўсё ідзе для багатых.

А багатыя ватай чыстай
Укручваюць камуніста.
На вату багатыя льлюць бэнзын,
Паляць запалку, момант адзін,—
Цела камуніста агонь ахопіць—
І застаецца попел.

Сяляне расьцілі вату,
Поле залілі потам.
Да Чан-Кай-Шы трапляе вата
Ды ідзе па палкох, па ротах.

Пра гэта проста сьмешна казаць:
Генэралы Саветы зьбіраюцца зьнішчаць —
Зьнішчыць Чырвоную армію.
Але сялянскія масы ідуць за ёй,
На генэралаў ідуць вайной.
Бо гэта-ж—сялянская армія!

Чырвоныя белых гоняць, б'юць.
Белых палохаюць чырвоных калёны.
Але самае страшнае—у кожным баю
Салдаты ідуць да чырвоных.



Кітайскі піанэр закліке працоўных на змаганьне супроць буржуазіі!



Іх стрымаць ня змогуць па-
грозы,
Зброя чырвоных — прамова і
лёзунг.

— Ідзеце!—крычаць,—у нас
закон:

Усіх буржуеў павесім самі!
Далоў кулакоў! Зямля бедня-
ком!

Салдаты! Вы—сяляне таксама!
Смакталі кроў нашу буржуй і
кулак,

Мы ўсе паўстаем супроць іх!
Разам збудуем Савецкі лад!
Салдаты! Вы—таксама рабочыя!

Слухай, помні, кат праклятьі:
Табе не дапаможа мяккая вата!
Бавоўна расьце на нашай зямлі.
Будзе дзень!
Будзе разьлік!

*(З кітайскае мовы).*



Паглядзеце на гэты малюнак і зрабеце самі са скрыначак ад запалак такую павозку з канём.

# ПАДУМАЙ

## ЗАГАДКІ

1. Кругла бяз вугла, за хвост не падняць.

2. На страсе сядзіць і піпку курыць.

3. Колькі трэба гонтаў на цэлую страху?

4. Колькі ў скрыначку ўвойдзе запалак?

5. Як напісаць у трох клетках слова капуста.

6. Хто дужэй: чалавек ці машына?

7. Дзе ляжаць літары на моры.

8. Якія чатыры літары, злучаныя разам, ненавідзяць буржуі.

9. Якая зорка зьявілася не на небе?

10. Што такое: не чалавек, а апавядае?

11. Бяз рук, бяз ног, а па падлозе скача.



**Колькі тут кубікаў?**

---

**АДКАЗЫ НА ЗАГАДКІ з № 2**

1. Лыжнікі знаходзяцца: адзін у левым кутку малюнку, а другі—пасярэдзіне,

2. **Манаграма:**
Каза
Лаза
Ваза
Газа

3. **Загадкі:** на месца кропак трэба напісаць—ваверка, ліс, мядзьведзь.

**Дзеці, шлеце болей загадак і задач.**

*Некаторыя загадкі, зьмешчаныя тут, прыслалі нашы дзяткоры—*
*ПІЛІПАЎ ВАСІЛЬ і ХАДАСЭВІЧ АНДРЭЙ.*

---



Мантаж водкладкі—мастака **А. Тычыны.**

Мастацкае афармленьне нумару—мастака **Е. Тараса.**

---

**ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“**

Рэдактары: **УЛ. ШПІЦЭР. А. ЯКІМОВІЧ.**

Цана асобн. нумару 18 кап.

# Фашысты і піянэры

(З часопісі нямецкіх піянэраў „ДЗІ ТРОММЭЛЬ“).






I. Паліцэйскія-фашысты наладзілі дэманстрацыю супроць бальшавікоў. Піянэр Ганс крычыць ім: „Прэч фашыстаў! Няхай жывуць бальшавікі!“




II. Фашыст схапіў Ганса і пацягнуў у турму.



III. Таварышы Ганса ўбачылі гэта. Як выратаваць Ганса?




IV. Піянэры ўрываюцца ў дэманстрацыю і адбіраюць у фашыстаў чучала (гэткае страшнае чучала фашысты выдаюць за бальшавіка).



V. Піянэры ўцяклі.



VI. Адзін з піянэраў сеў з чучалам на веласапэд і спрэў фашыста, які цягнуў Ганса ў турму. Фашыст напалохаўся і выпусьціў Ганса.



VII. Ганс выратаваны.



VIII. Піянэры з радасьцю сустракаюць сваіх таварышоў.

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 240. 3.570 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—6